











http://www.navinki.irex.minsk.by

# НАВІНКІ

31 студзеня - 15 лютага 2001 №2(40) Кошт свабодны



# Дэмакратычная эўгеніка

*«Пасьля абнародаваньня ў газэце* Наша Свабода *«Мэдычнага сьведчаньня аб стане псыхічнага здароўя А.Лукашэнкі» грамадзтва мае ўсе падставы патрабаваць псыхічнай экспэртызы гэтага чалавека, каб засьцерагчыся ад пагрозы ягонай дэструктыўнай дзейнасьці».* (Навіны БНФ, *18.01.2001*) На стар. 4-5

## Санта-Пружаны: мыльная опэра для нэалібэралаў

на стар.3

## NRM: Болт за карону

рэпартаж з «Рок-Каранацыі» на стар.6

## Сакрэт Ніны Чайкі выкрыты!

стар.7

## Джэнтэльмэны таксама плачуць



Комікс на стар.8

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс 63439. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 31.01.2001г., а 00.01. Тыраж 5600 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ПП «Мэджык», г. Менск, вул. Кнорына, 50. Заказ №121

# Як разумЕць

*(з пункту гледжаньня канспірацыі)*

**Заяву Прэзыдэнта А.Лукашэнкі, што ўсе прадстаўнікі АБСЭ удзень сумленныя людзі, а ўначы дастаюць свае ружжы й спансуюць апазыцыю.**

Фенька ня новая...

Тое, што прадстаўнікі АБСЭ ўганяюць нібыта шпрыцом вялікія фінансавыя ін'екцыі – сакрэт хіба што для самага аддаленага беларускага сяла. Але тое, што па начах прадстаўнікі гэтай сур'ёзнай арганізацыі на халяву прытаргоўваюць паўаўтаматычнай зброяй – сэнсацыя. Уявіце сабе, колькі стралковай зброі знаходзіцца зараз у ня вельмі ўстойлівых грамадзянаў?

Але як гэта так адбываецца? Вельмі проста: прадстаўнікі АБСЭ вядуць падвойны лад жыцьця. На думку дацкага карыкатурыста-камуніста Херлуфа Бідструпа, гэта можна праілюстраваць такім чынам.









# Гаўно – зброя паліцыянта




Апошні піск моды на рынку зброі супраць маніфэстантаў прэзэнтавалі швайцарскія паліцыянты ў Давосе. Каб расьсеяць натоўп дэманстрантаў, што пратэставалі супраць глябалізацыі, калегі Сівакова выкарысталі... гаўнамёты.

Ведаючы любоў нашых міліцыянтаў да ўсялякага кшталту навінак, неўзабаве можна чакаць зьяўленьне на вуліцах Менску «машыны для пульвэрызацыі арганічнага ўгнаеньня». Так што, ня ўляпайцеся па вясьне ў гаўно ●



## Адрасная сац-дапамога?

Сталічная грамадзкасьць з энтузіязмам сустрэла вестку аб адкрыцьці першага бамжатніку. Адкрыты ў прысутнасьці бацькаў гораду зьяляецца дэманстрацыяй тактыкі адраснай сацыяльнай дапамогі. Добры пачын. Наступны лягічны крок – адчыніць па прыкладу Цюрыху наркаманскую зону, дзе нарыкі маглі б атрымліваць дозу задарма. Пачаць можна з дапамогі таксыкаманам і раздаваць ім бясплатна «Фенікс», «Мамент» і канцэлярскі клей.

## Праспэкт «чырвоных ліхтароў»?

Калі Ўладзімір Навасяд атрымаў пасьведчаньне дэпутата Палаты Прадстаўнікоў, усе было пастанавілі, што газэце *Молодежный проспект*, якую ён заснаваў, прыйшоў гамон. Ніводны заходні спонсар ня дасьць ані ламанага цэнту пад газэту, чый фундатар засьвяціўся у продажным лукашэнкаўскім парлямэнце. Аднак, насуперак усім скептыкам *МП* жыве і квітнее. Сакрэт выжываньня – новая рынкавая стратэгія газэты (гл. Дыяграму). З кожнай трэцяй фатаграфіі апошняга нумару *МП* на вас глядзяць смачныя цёлкі ў самых пікантных позах кшталту «трахні мяне». Калі так пойдзе далей, дык хутка гэтая газэта пакіне далёка ў хвасьце *СПИД-инфо* або *Двое*. Ай-я-яй, супругі Пальнскія!




## *Пераймаць досьвед...*

На мінулым тыдні лёс Дэмакратычная рэвалюцыі ў Беларусі вырашаўся ў Баранавічах, дзе сябры арганізацыі «Варута» прыймалі гасьцей – прадстаўнікоў сэрбскай апазыцыі. У лепшых традыцыях гасьціннасьці рэвалюцыянэраў з Балканаў спаілі ў сіську. Як прызнаўся інтурыст Мілаш ў эксклюзіўным інтэрвію Навінкам, яшчэ б грамаў 100 і яго б фіг адкачалі. Гэта значыла б, што на беларускай дэмакратыі можна ставіць тлусты крыж. Сэрбы – апошняя надзея нашай апазыцыі.Іх зьбіраюцца пачкамі імпартаваць у краіну, каб выведаць унікальны досьвед, як зьвяргаць дыктатуру. Трэба ўлічваць гэтую акалічнасьць, шаноўныя таварышы з «Варуты», а не пасылаць ганцапа даганялава ●




# Міжнародная панарама

**ШВАЙЦАРЫЯ**
26 студзеня ў Цюрыху праціўнікі глябалізацыі, якія ня здолелі прарвацца ў Давос, арганізавалі беспарадкі ў горадзе. Пратэстанты грамілі сымбалі глябалізацыі – офісы манаполіяў і МакДональдсы. Каб расьсеяць натоўп улады выкарысталі сьлезацечны газ і... Баі працягваюцца.

**ФРАНЦЫЯ**
Арганізаваныя пэнсіянэрамі й прафсаюзамі акцыі пратэсту супраць новага несправедлівага праекта паралізавалі рух транпарту па ўсей краіне. У самым Парыжы на вуліцы выйшла 400 тысячы чалавек. Перапужаныя улады адмовіліся ад сваіх фашыстоўскіх плянаў.

**БЭЛЬГІЯ**
Парлямэнт краіны прыняў гістарычнае рашэньне скасаваць артыкулы КК, якія прадугледжвалі санкцыі за ўжываньне марыхуаны. Цяпер «грас» прыроўнены да лёгкага алькаголю кшталту піва.

**ІТАЛІЯ**
29 студзеня ў Турыне зялёныя блакіравалі Каралеўскі Палац, дзе францускі і італьянскі прэм'еры зьбіраліся падпісаць нагоду аб увядзеньні ў строй г.зв. монблянскага тунэлю. Праект, як лічаць зялёныя, прыносіць шкоду экалёгіі рэгіёну.

**КРАІНА БАСКАЎ**
Тэрарысты ЭТА падклалі 4 кіляграмы дынаміту пад машыну афіцэра Марской Камэндадтуры Сан-Сэбаст'яну. Гэта 24 ахвяра басконскіх сэпаратстаў .

**ЗША**
Антырасісты Джорджыі дабіліся-такі перагляду сымболікі штату. Стары сьцяг Джорджыі сёньня зьяўляецца прызнаным сяцягам расісцкага руху. Падчас грамадзянскай вайны 19 ст. ён ужываўся ў якасьці флага Канфэдэрацыі рабаўладальніцкіх штатаў.

**ІНДАНЭЗІЯ**
29 студзеня інданэзійскія студэнты штурмавалі будынак парлямэнту краіны. Дэманстрантам ўдалося прарвацца на тэрыторыю парлямэнцкага комплексу. Яны патрабуюць адстаўкі прэзыдэнта Вахіда, абвінавачанага ў карупцыі.

**ЭКВАДОР**
25 студзеня індзецы блякавалі галоўную трасу краіны і ўступілі у бой з салдатамі. Індзейскі пратэст – частка агульна-нацыянальнай кампаніі супраць падвышэньня коштаў на паліва і платы на праезд у аўтобусах.

**БРАЗЫЛІЯ**
26 студзеня актывісты Руху безьзямельных сялянаў (MST) акупавалі біятэхнічны завод, каб зьнішчыць генэтычна мадыфікаванае зерне, вытворчасьць якога пагражае банкруцтвам гаспадаркам арэндатараў.

**АФГАНІСТАН**
У Кабуле арыштавана каля 30 цырульнікаў, якія агалялі кліентаў а-ля di Caprio з фільму Тытанік. Улады палічылі гэта за прапаганду рэвалюцыі.

**ЗАНЗЫБАР**
Прыхільнікі дэмакратычнай апазыцыі, узброеныя камянямі, «кактэйлямі молатава» і пангамі (варыянт мачэтэ) выйшлі на вуліцы. Беспарадкі выкліканыя махінацыямі ўладаў падчас апошніх выбараў.

# А за што змагаліся?




З тых часоў, як па ТБ пайшоў новы тэлесэрыял «За што змагаліся», кожны чалавек ведае, што за Бугам пануе галеча, голад і нястача. Ня дзіўна, што тыя аспэкты польскага сучаснага жыцьця сталі асноўнымі тэмамі ўсіх настаўнікаў мовы Міцкевіча, Агінскага й Касьцюшкі. Цяпер на курсах польскай мовы ў Менску часта адключаюць сьвятло, і вучні вымушаныя займацца пры сьвячах. «Гэта дапамагае стварыць прыбліжаныя да польскага ладу жыцьця ўмовы камунікаваньня», – лічыць выкладчык польскай Браніслаў Тарашкевіч. – «Таму ў лексычных кантсрукцыях у нас пераважаюць выразы кшталту «Калі ў вас уключаюць сьвятло?», «Колькі ў вас каштуюць сьвечкі?» ці «Каля якога касьцёлу Вы зьбіраеце міласьціну?» Гэта дапамагае вучням адчуць атмасфэру Польшчы» ●



У ЛТП: «І ўстаць, калі з Вамі размаўляе алькаголік!»

## «Ты мяне паважаеш?»

Са Сьветлагорскага ЛТП прыйшлі добрыя весткі. Людзі – пасаджаныя дзяржавай на «стакан» і аддаўшыя для павялічэньня касавага абароту дзяржавы ўсё сваё здароўе і бабкі, кінутыя за калючы дрот – ня вытрымалі зьдзекаў пэрсаналу ў духу доктара Мэнгеля. У адзін з пагодных зімовых дзён яны, нібы матросы браняносца «Пацёмкін», адмовіліся выйсьці на вячэру.
Гэта павергла ў жах начальніка ЛТП маёра Н. Памятаючы разборкі ў Віцебску, адміністрацыя прафілякторыю аказалася вельмі згаворлівай. Усе патрабаваньні пацыентаў выкананыя, у тым ліку уведзены ветлівы зварот на «Вы» ●

## КалЁнка нарОднага паЭта



### Ярыла Пшанічны

***

**Хто казаў, што п'е рабочы?**
**Хто казаў, што белыя вочы?**
**Гэта няверна,**
**Гэта ня так!**
**П'юць інжынэры,**
**Бугалтар,**
**Мастак.**
**П'е падлетак, ня слухае таты.**
**П'е кіраўніцтва з-за затрымкі**
**зарплаты.**
**Пэўна ж ёсьць**
**Чаму шухарыцца:**
**Прыняты Указ**
**Супраць гэтага сьвінства.**
**Зараз любы дырэктар таўстадоп**
**Адказнасьць несьці павінен:**
**Затрымка заробку –**
**У лабэшнік хлоп!**
**На першы раз руку адымем!**
**З другога разу, калі не дайшло,**
**Уваткнем у яго тушу тышчу матыг.**
**На трэці раз рабочы народ**
**Лье сьвінец абібоку ў кадык.**
**І гэта ўсё ўжо па пунктах**
**Расьпісана.**
**Дзякуй ураду,**
**Ура,**
**Ура!**
**Цяпер можна напіцца**
**Нам!**

***2001***

## ПрывАт

### Домаш – палітык памяркоўны.

**«Хлопцы, а давайце зойдзем у мой падворак, дзе людзей паменей, паклічам карэспандэнтаў ды спалім гэны дагавор. Хай журналюгі пафатаграфуюць, а на дэманстрацыі проста па пратэстуем».**
Гэта ні што іншае, як прамова-прапанова Сямёна Домаша ў аргкамітэце апазыцыйных сілаў перад дэманстрацыяй пратэсту супраць дагавору «Беларусь–Расея» ў Гародні. Якія ўражаньні? Экстрэміст скажа: «Баязьлівец». Але мы скажам: «Не! Звычайная беларуская неканфліктнасьць». Можаце быць упэўненымі, дарагія чытачы, харобрасьці ў Домаша неадымеш. Калі скажа «Паліць», значыць паліць. Сапраўдны бізон! Проста Домаш – гэта сапраўды прадуманы й памяркоўны палітык, які не разарваў яшчэ пупавіны зь беларускім народным мэнталітэтам. Ну зразумейце, каму патрэбная карцінка па «яшчыку» з азьвярэлымі тварамі бескампрамісных палітыкаў на вячэру? Хіба што заўсёднікам антыўрадавых дэманстрацыяў ды спонсарам беларускае апазыцыі – Захаду. А нашага чалавека (можна сьмела сказаць – выбаршчыка!) такія фішкі, мякка кажучы, пужаюць. Назіраючы ўчынкі розных адмарозкаў і гледзячы на стройную фігуру Сямёна Домаша, я разумею: вось ён – выратавальнік нашае краіны, той чалавек, які здольны прыпыніць гвалт. Сапраўдны памяркоўны беларускі палітык, які сваімі паводзінамі і перадвыбарчай стратэгіяй так нагадвае тыповага беларуса: «Як бы чаго дрэннага ня здарылася, як бы чаго не падумалі дрэннага дый каб вайны не было».

# Слоўнік рэвалюцыянэра

Грандыёзны скандал разразіўся ў Польшчы. Гаворка йдзе пра польскую вэрсію новага гетсаўскага твору MicrosoftWord2000. У «Тэзаўрусе» (адмысловая праграма пошуку сынонімаў) шэраг агульнаўжываных словаў, вядомых з часоў Варшаўскага дагавору, былі пададзеныя сынонімы, якія супярэчаць сучаснай нэалібэральнай палітыцы польскага ўраду. Напрыклад, слова «капіталізм» мае адпаведнік у польскай мове, паводле Гейтса, як «прыгнечаньне», «несправядлівасьць», «абдзіралаўка» і г.д. Але сам Microsoft клянецца, што тут ні пры чым: па-ангельску «капіталістычны» адпаведнік характа-рызуецца словамі «свабодны рынак», «працьвітаньне», «дабрабыт» і г.д. Цяпер перакладчыкамі займаецца суд ●




# Санта-Пружаны,

## або як праводзіць нэалібэральную прапаганду сярод хатніх гаспадынь

«Чаму рынкавая прапаганда даходзіць толькі да паловы пэнсіянэраў і маладых людзей ва ўзросьце 24 гадоўі» - б'ецца галавой аб сьценку эпістальярны аятола беларускіх нэалібэралаў Яраслаў Раманчук на старонках БГ (22.01.2001). Як кажуць швайцарцы ў Давосе: «Шэршэ ля фам».
«Сярод прыгожай паловы на 30 працэнтаў менш прыхільніц рынкавай экономікі і больш аматарак плянавай экономікі». І гэта пры тым, што «амаль у два разы менш жанчын цікавяцца экономікай увогуле». Парадокс - заключаем мы разам з беларускай рэінкарнацыяй Бальцэровіча. Каб распаліць патухлае рынкавае лібіда кабет, журналіст прапануе Міжнароднай Фінансавай Карпарацыі «падумаць аб тым, каб па БТ і іншых каналах пусьціць мыльную опэру з прадпрымальніцай з народу ў галоўнай ролі, якая б мэтадычна на працягу 592 сэрыяў тлумачыла прэлесьці рынку і брыдоту інтэрвэнцыянізму».
Геніяльна!
Ведаючы, якія Швондэры заселі сёньня на Макаёнка-9, *Навінкі* ня сталі чакаць заслужаннага пакараньня Зімоўскага. Прапануем вам пілотны сцэнар новага сэрыялу «Санта-Пружаны». Не спакушаючыся на аўтарскае права Я.Раманчука, мы паклапаціліся пра тое, каб ва ўсіх словах станоўчай гераіні, прысутнічалі вытрымкі з артыкулаў духоўнага бацькі праекту ●

**1. Фрэзэроўшчык Хуан-Антось даведваецца аб здрадзе жонкі. Маладая бізнэсвумэн Ганна-Браніслава была застуканая з маладым ідальга, газэтным магнатам Донам Ярыкам.**

**2. Багатыя таксама плачуць. Латок Ганны-Браніславы канфіскавала падатковая інспэкцыя. Хуана-Антося звольнілі. Босу не спадабаўся пах адэкалёну нашага героя.**

**3. Каля ўваходу на рынак пяцігадовы сын Ганны-Браніславы Вінцучыта пабачыў двух пэнсіянэрак, якія б'юцца з-за пустой бутэлькі.**

**4. Дзіця выкрадае банда пэдафілаў. Бацькі вымушаныя зьвярнуцца ў прыватную міліцыю.**

Санта Пружаны

Я не набываў табе гэтага плястыкавага калье. Хто ён? Ты спала зь ім?

Хамячок, прастытуцыя ў адрозьненьні ад большасьці рэгулюючых дзеяньняў дзяржавы, маральная, бо пабудаваная на ўзаемавыгодным абмене каштоўнасьцямі *(БГ 9.10.2000)*.

Я гэтага так не пакіну! Заўтра іду ў прафсаюз да Міхалыча.

Які ты цёмны. Гэтак званыя калектыўныя эканамічныя правы – сацыялістычныя перажыткі, шлях да высокага беспрацоўя і стагнацыі эканомікі *(БГ 17.07.2000)*.

Ма, чаму яны такія брудныя?

Гэта так, часовы рост сацыяльнага напружаньня, якое здымаецца па меры ўдасканаленьня мэханізму адраснай дапамогі *(БГ 18.09.2000)*. Кінь ім ірыску, сынулька.

Вы толькі грамадзяначка, не турбуйцеся!

Нічога. Ён ведае, што сэксіндустрыя ў беднай краіне – гэта акт сацыяльнай падтрымкі, спосаб перажыць цяжкія часы *(БГ 9.09.2000)*. А ў мяне акурат акцыі падаюць.

# Болт за карону

## Стрыптыз ад Піта Паўлава забясьпечыў перамогу NRM

Імідж «Рок-Каранацыі» як самай прадажнай і прадказальнай канторы разваліўся, як картачны домік. Кантора памірае. Прычынай таму – вынікі «Рок-Каранацыі-2000», якая нядаўна мусіла была падсумаваць посьпехі беларускай музычнай сцэны за мінулы год. Чакалі ўсяго, але такога... Ну хто зь «незалежных экспэртаў» мог прадказаць, што амаль усе намінацыі (акрамя «Адкрыцьця году» і яшчэ пары) заграбе толькі адзін гурт – NRM?!

Яшчэ да пачатку імпрэзы было ясна, што NRM не прыпыніцца ні перад чым, каб заныкаць усе рок-кароны адразу. Апафэозам жа зьдзеку над публікай стаў выступ гурта, падчас якога Піт Паўлаў скакаў па сцэне абсалютна голы, шакіруючы нават самых адданых сваіх фанатак памерамі свайго дзетароднага органу. (Памераўшыся сваімі «дастоінствамі» ў грымёрцы, менавіта Паўлаву было даручана прэзэнтаваць, мякка кажучы, твар гурта.)

Вынік ня лезе ні ў якія трусы. «Музыкам году» стаў Лявон Вольскі, «Песьняй году» – кампазыцыя «Тры чарапахі» NRM. «Альбомам году» названы аднайменны альбом «Тры чарапахі», кліпам году – «Чыстая сьветлая» NRM. «Тэкстамі году» прызнаныя творы Лявона Вольскага. «Гуртом году» стаў NRM. Нават падзеяй году названы супольны музычны праект «Я нарадзіўся тут», які таксама не абыйшоўся бяз мройнага рулявога. Згадзіцеся, дзеля 6 карон можна й балтом патрэсьці.




*Камэра нашага «папарацы» зьлавіла рабочы момант з жыцьця NRM. Лідэры гурта мераюцца мужчынскімі якасьцямі перад сваім зорным выступам.*

І толькі тры няшчасныя намінацыі цудам высьлізнулі з чэпкіх граблюк Л.Вольскага, дый тое выпадкова. «Гуртом стагодзьдзя» сталі ПЕСНЯРЫ (у Мулявіна, відаць, чэлес паболей). «Адкрыцьцём году» былі абвешчаныя ўдзельнікі гурту БЕЗЬ БІЛЕТА (у іх аказаўся «праязны» ад «Класс-Клуба»). А ў намінацыі «традыцыі й сучаснасьць» перамогу атрымаў гурт UR'IA (энэрэмаўская «партызанская» тэматыка часоў Вялікай айчыннай не прахіляла).

І яшчэ адзін цікавы аспэкт. Нягледзячы на неаднаразовыя заклікі абраць г.зв. «нармальнага прэзыдэнта» (гэта пры тым, што нармальным для дзеяча культуры зьяўляецца касіць ад войска праз славутую псыхіятрычную лякарню ў Навінках), сам NRM узяў рок-карону другі раз, застаўшыся такім чынам рок-каралямі на наступны тэрмін. Добры знак для Аляксандра Рыгоравіча ●

**Алесь Камоцкі,**
музычны якабінец

## *МЫ і «пОпы»*

### «Чаму гурту NRM не ўдалося перамагчы ў намінацыі «Адкрыцьцё году»?»



**Лявон, рок-кароль:** «Я лічу, што адкрыцьцё году мусіў атрымаць Піт Паўлаў, які адкрыў публіцы сваю піську. Ну магчыма і я, але я ўсё ж такі быў у спадніцы».



**Саша, Куллінковіч:** «NRM не атрымалі гэтай намінацыі на Рок-Каранацыі, бо яны мусяць атрымаць яе на Рок-Гільятыне».



**Супэр, вараціла шоў-бізнэсу:** «Мы, БМА, зьбіраліся даць NRM на каранацыі спэцпрыз «Закрыцьцё году». Да адкрыцьця году яны трошкі яшчэ не дацягваюць».



**Глеб, музычны абсэрвэр газэты *Навінкі*:** «Тое, што на каранацыю пусьцілі БЕЗЬ БІЛЕТА – вялікі недагляд аховы. У выніку ад безьбілетнікаў было цесна і шумна. Хоць бы хапіла сумленьня саступіць сваё месца старэйшым!»



Гурток маладых хакераў-тымураўцаў за сваёй справай. Некаму на першы погляд можа падацца, што яны **працуюць архаічна, але гэта зманлівае ўражаньне.**



*Беларуская Музычная Альтэрнатыва пачынае перадзел рынку сэксуальных паслугаў*

# Супэр-гандоны?

Сёньня больш за 90% маладога беларускага музычнага рынку кантралюецца хапугамі з канторы дона Супрановіча пад пагрозьлівай назвай БМА. Акупаваўшы вушы беларускай моладзі, яны вырашылі пакласьці лапу й на іншыя яе органы.

Цяпер БМА вырашыла ўзяцца за гандаль прэзэрватывамі. Уступленьне карпарацыі на падзелены між дробнымі групоўкамі рынак гандонаў прымеркаванае да 14 лютага – Дня сьвятога Валянціна, і будзе абстаўленае ў лепшых традыцыях айчыннай мафіі. У клюбе «Акварыюм» пройдзе ўрачыстая акцыя з бухалаўкай, дыскатэкай і продажам прэзэрватываў.

Пры гэтым брутальныя хады, на якія ідзе БМА, каб заваліць канкурэнтаў, уражваюць сваёй няхіласьцю. Гэтак, да кожнага прэзіка «ад Супрановіча» будзе прыкладзены кампакт-дыск(!) беларускага року «Песьні пра каханьне». Ясна, што супрацьпаставіць такому націску і агрэсіі сьціплыя пастаўшчыкі тайваньскіх гумак здолеюць няшмат. Таму можна меркаваць, што ўжо праз пару месяцаў БМА стане манапалістам на гэтым пэрспэктыўным сэгмэнце рынку. Вось тады звычайным пакупнікам будзе не да абароны ад СНІДу: купляючы за 20 баксаў пакунак гандонаў «Я нарадзіўся тут», яны яшчэ ня раз памянуць нядобрым словам аматараў айчыннага року ●




# «Спакойна, юзэр! Я – Тымур»

*новыя камандас у кібэрпрасторы кінулі выклік Інтэрнэт-злодзеям*

За апошнія дзесяцігодзьдзі кібэрпрастора спарадзіла цэлую пляяду разнайстайных відаў і падвідаў чалавекападобных, пачынаючы ад звычайнага ламэра і сканчаючы кібэрпаліцыяй з усімі яе прыбамбасамі. Але эвалюцыя не спыняецца ні на хвіліну, як не спыняецца і барацьба паміж Злом і Дабром, якія не згубілі свайго эўрыстычнага сэнсу нават у віртуальным сьвеце. А як вядома, на кожнага антыгероя знойдзецца і свой герой. Менавіта пад такім лёзунгам і дзейнічаюць ў сусьветным павуціньні Тымур і яго каманда.

«Абараніць слабейшых, дабіцца парадку і спакою ў кібэрпрасторы – вось нашая мэта і неадкладная праграма», – кажа харызматычны лідэр каманды, вядомы пад нікам Тымур. Яны зваліліся на нашыя PC нечакана, як прывіды, заклікаючы з таго сьвету дух легендарнага Тымура, чыя каманда некалі наводзіла жах на ўсіх нягоднікаў Падмаскоўя. Невядомыя тымураўцы прыходзяць сёньня на дапамогу ўсім, каму яна патрэбная, незалежна ад полу, узросту і расавай прыналежнасьці. Яны клапоцяцца аб тых, хто пакутуе ад набегаў хакераў, кракераў і іншай нечысьці. «Кракерам-квакіным няма месца ў нашай кібэрпрасторы!» – заяўляюць яны, абвесьціўшы тымсамым вайну злосным парушальнікам спакою ў Інтэрнэце. Для ажыцьцяўленьня сваёй задумы героі-тымураўцы шырока выкарыстоўваюць гэтак званы «timur», які ўяўляе сабой пераходны від ад віруса да праграмы і зьяўляецца папросту утылітай аддаленага доступу. Дзейнічае яна проста: вы скачваеце з І-нэту якую-небудзь праграму, а разам зь ёй і timur'a. Timur прапісваецца ў вас у рэестры і там спакойна сабе сядзіць, самарассылаючыся ўсім адрасатам у вашай адраснай кнізе, а тымураўцы атрымліваюць доступ да ўсяго вашага компа. «Злосны хак!» – скажаце вы. Не, патрапіўшы ў ваш кампутар, тымураўцы дасьледуюць яго на пытаньне памылак, вірусаў, непатрэбных файлаў, якія пыляцца ў вашых тэчках гадамі. Чысьцяць, мыюць, выскабліваюць. І ціха сыходзяць. Адзінае, як вы можаце здагадацца, што ў вашым кампутары папрацавалі тымураўцы – чыстая карзіна, адсутнасьць часовых файлаў, прасканаваны і дэфрагмэнтаваны дыск і трупы, трупы вірусаў, а калі пашчасьціць, то й e-mail таго квакіна, чый trojan увесь гэты час сядзеў у вашым PC, крадзячы вашыя паролі і грошы.

І калі аднойчы вы прыйдзеце дадому, уключыце свой родны стары комп і раптам заўважыце непрыкметную чырвоную зорачку на «Рабочым стале», ведайце: дзесь там, у далёкай кібэрнэтычнай прасторы, ёсьць людзі, якія робяць усё, каб у гэтым віртуальным сьвеце вы больш не баяліся гвалту і крыміналу, людзі, якія заўсёды абароняць вас і ваш PC, нават коштам уласнага софту ●

**Жэня Аляксандрава**

Конкурс

## Вынікі абнадзейваюць.

Шаноўныя чытачы. Сёньня мы падводзім вынікі конкурсу «На лепшы артыкул у нумар», які абвесьціла рэдакцыя нашай газэты яшчэ ў восені мінулага году. Мы перапрашаем за затрымку абвяшчэньня рэзультатаў гэтага конкурсу. Варта зазначыць і той факт, што ня ўсе конкурсныя работы мы былі ў стане друкаваць на старонках газэты, што выклікана выключна тэхнічнымі прычынамі.
Як ні дзіўна, пераможцы ёсьць! Імёны іх, па зразумелых прычынах мы не называем (калі пажадаюць – вядома ж абвесьцім на ўсю краіну!). Таму засяродзімся на рабоце над памылкамі для тых, хто, нажаль, не заняў прызавых месцаў.
Найперш выдавала большасьць маладых аўтараў тая акалічнасьць, што яны пісалі... ніпрашто(!). «Я ехаў у цягніку і глядзеў у столь...», «Я пайшоў на канцэрт, а потым калупаўся ў носе...» і г.д.
Ніякай прывязкі да канкрэтных падзеяў або асобаў, якія былі б вядомымі ўсім чытачам нашай газэты.
Па-другое, адсутнасьць крытычнасьці ў апісаньні падзеяў (у тых, хто праходзіў першы ўзровень).
Мы гатовыя працягнуць конкурс, так што чакаем вашых новых лістоў.
А зь пераможцамі папярэдняга конкурсу рэдакцыя зьвяжыцца ў самы бліжэйшы час. Рыхтуйце глоткі, шчасьліўчыкі!




# Panem et cercenzes

## *Хлеба і відовішчаў – лёзунг рымскіх плебеяў актуальны як ніколі*

Сёньняшняе эсэ, паважаныя кінаманы, я вырашыў прысьвяціць не апошнім кінанавінкам, а фільму, які ўжо паўгады як трыюмфальна прашэстваваў па сусьветных кінаікранах. і прычынай гэтаму зусім не эксцэнтрычны снабізм кінакрытыка. Я проста цьвёрда перакананы ў тым, што ацаніць па дастоінству мастацкія якасьці фільму магчыма толькі пасьля заканчэньня рэклямнага ажыятажу і адліву мутнай хвалі заказных рэцэнзіяў. Гаворка пойдзе пра стужку «Глядыятар». Для прагляду сусьветных кінахітоў я заўсёды выбіраю маленькі кінатэатрык «Радзіма», што ўтульна разьмесьціўся ў Заводзкім раёне гораду Менску. У гэтым эпіцэнтры культуры мясцовага значэньня я ўпершыню ўбычыў усе самыя значныя кінашэдэўры XX стагодзьдзя: «Браняносец Пацёмкін», «Трактарысты», Тры тапалі на Плюшчысе», «Зіта і Гіта», «Піраты XX стагодзьдзя» і «Маленькая Вера». Більярдная заля кінатэатру, іґравыя аўтаматы і бар зь вясёлымі і добразычлівымі заўсёднікамі даўно палюбіўся жыхарам сталіцы.
Кінапрагляд для мяне – вялікае сьвята. А тут яшчэ напярэдадні ў прыватнай размове Міша Пташук параіў: «Старычок, абавязкова паглядзі гэтую кіношку. Хоць, вядома, яна з маім «Жніўнем 44-га» і побач на паліцы ў кінаархіве Дзяржфільмафонду не валялася, але ж там такія драчкі! Калі б яшчэ рэжысэр на масоўку падрадзіў некалькі дывізіяў зь Печаў, дык наогул бы блокбастэр атрымаўся».
Прадчуваючы сустрэчу з прыгожым, я , як і заўсёды, загадзя набыў пляшачку «Крыжачку». Было прыемна пераканацца, што мае нешматлікія суседзі па кіназалі паступілі тым жа чынам. Хочацца сказаць некалькі цёплых словаў аб работніках кінатэатру. З надыходам эпохі відэа адносіны паміж пэрсаналам кінатэатраў і кінагледачамі кардынальна зьмяніліся. Раней, нават на дзённым сэансе ў будні дзень нельга было нават падумаць пра тое, каб сумясьціць наталеньне духоўнай прагі з прагай лёгкіх алькагольных напояў, кшталту чарніла – абавязкова трапляўся які-небудзь строгі сусед, якому віннае бульканьне і чаўканьне закусонам перашкаджала сачыць за разьвіцьцём каханьня даяркі-десяцітысячніцы і інжынэра-кібэрнэтыка. Далей звычайна сьледавала зьяўленьне білецёркі і пазорнае выгнаньне на вуліцу. Зараз жа бабулькі-білецёркі толькі радыя дадаць да свайго скуднага заробку выручку ад здадзенай пасьля кінасэансу шклатары. Маўляў: «Піце, дзеткі, на здароўе, толькі гандоны пасьля сябе не пакідайце».
За што мне падабаецца кіно – дык гэта за магчымасьць непасрэдна назіраць за рэакцыяй гледачоў. Гэтак, напрыклад, мой сусед за шэсьць радоў наперад, суперажываючы барацьбе германскіх барбараў з рымскімі легіёнамі дастаў з кішэні цясак, якому б пазайздросьціў і Амальрык, ды пачаў крэмзаць крэслы. Мае суседзі-аднадумцы за дзевяць радоў наперад, з бурнай радасьцю адзначалі посьпехі галоўнага герою на глядыятарскім рынгу новай порцыяй гарэлкі, якую яны заядалі семачкамі. Маладзенькая парачка ззаду, пасьля ўдалага палавога акту з асалодай паліла касячок. Гледачы былі гэтак захопленыя дзеяньнем на экране, што прапусьцілі момант, калі кінаапэратар пераблытаў месцамі часткі кінастужкі.



Пасьля заканьчэньня сэансу, кінагледачы, стомленыя, але задаволеныя, разыходзіліся па хатах. А я падумаў: як жа абдзяляюць сябе тыя, хто здраджвае кінапраглядам і сядзіць дома, утаропіўшыся ў тэлеяшчык. Людзі, калі вы жадаеце сапраўднага сутыкненьня з рэальнасьцю – хадзіце ў кінатэатры! А што датычыцца «Глядыятару» – у нашым жыцьці ёсьць і больш цікавыя рэчы ●

**Вадзім Нявідзімаў**

## Духоўны айцец Ніны Чайкі альбо справа Radio Maryja жыве й перамагае

# Радыё «Марыя»

Вось такія бага-хульныя паштоўкі маюць хаджэньне ў Польшчы: што папа, што Збаўца...




Ні для каго не сакрэт, што ў нашую постмадэрновую эру цяжка стварыць нешта прынцыпова новае, асабліва ў сфэры мас-мэдыя. Аднак кожны выбірае свой узор да падражаньня. Пакуль мясцовыя аматары расейскіх НТВ ці ОРТ задавальненьнем глядзяць перабацаныя адзін-увадзін з заходніх тэлеканалаў перадачы, просты беларускі рабацяга робіць свой вабар на карысьць БТ і «Рэзанансу», а «Разговор по существу» па радыёкропцы зьбірае шматмільённую аўдыторыю хатніх гаспадынь. Але калі кожнае дзіця ведае што «Колесо фортуны» альбо «Угадай мелодию» – гэта проста марныя расейскія копіі з заходняга арыгіналу, дык ніхто ня ведае, што ж натхняе аўтараў славянскіх блокбастэраў тыпу «Тайных пружин политики»? Адказ на гэтае пытаньне трэба шукаць у суседняй панска-каталіцкай Польшчы.
У польскім радыёэфіры сярод іншых радыёстанцыяў існуе адна зь вельмі дзіўнай назвай Radio Maryja. І ўсё б нічога, каб ня той факт: манеры кіраўніка гэтай станцыі харызматычнага айца Рыдзыка чамусьці падаліся да болю знаёмымі й роднымі. Штодня ў эфіры Radio Maryja бязьлітасна эксплюатуе фішку, што нібыта Польшчы й касьцёлу пагражае вялікая небясьпека з боку лібэральна-жыдоўска-масонска-камуністычных цэнтраў, якія ўступілі ў змову супраць бастыёну каталіцызму ў сьвеце. ЯНЫ (гэтыя цёмныя сілы) разбэшчваюць моладзь д'ябальскай музыкай, падрываюць сьвяты касьцёл, насаджаюць чужыя палякам «лібэральныя каштоўнасьці» і г.д.
Але вось мэтамарфоза: калі паўсюль у гэтых пропаведзях памяняць усяго толькі слова «каталіцкі» на «праваслаўны», а «Польшча» на «славянскі сьвет», – перад намі паўстае непаўтаральны вобраз сапраўднай рускай жанчыны з крылатым прозьвішчам Чайка, палымянай прыхільніцы прэзыдэнта, адданай праваслаўнай верніцы, бескампраміснай змагаркі супраць заходніх уплываў, а заадно вядучая ўжо памянёнага «Разговора по существу».
Такім чынам, бескампрамісны змагар з жыдоўскім уплывам і сусьветным масонствам айцец Рыдзык зьяўляецца сапраўдным хросным бацькам усіх чаек, казіятак, зімоўскіх ды іншых пэрсанажаў беларускай тэлерадыёкампаніі. Апошнім застаецца толькі ксэрыць канспэкты «адэпта каталіцкай экспансіі» і карнаць іх пад праваслаўна-славянскі пашыб ●

**Аддзел расьсьледаваньняў «Н»**



# ПО ГЛАЗАМ? Па мордзе!



*Падчас Стасіных «рэпэтыцыяў» на сьценку лезуць усе суседзі: трываць такія сьпевы вэтэранскія вушы проста ня ў стане.*

Шаноўная рэдакцыя, <...>! Нядаўна я са сваёй жонкай пераехаў на новую кватэру, бо на старой хаце маю маладую сям'ю рэгулярна даставаў сусед-музыка Л.Вольскі, які развучваў сальфэджыё свайго новага альбому «Тры чарапахі». Але нашым марам пра бесклапотнае й спакойнае жыцьцё на новым месцы не давялося збыцца. На гэты раз на стабільнасьць майго сямейнага жыцьця замахнулася іншая ўзыходзячая зорка беларуска-расейскай поп-сцэны са сьціплым імем Стася (гэтак клічуць дзяўчыну, што жыве паверхам вышэй). Цяпер я вымушаны штодня слухаць партытуры гурта ПО ГЛАЗАМ, вакалісткай якога і зьяўляецца гэтая недарослая бэстыя. Да таго ж Стася проста ташчыцца, калі гучыць яе голас без гітарнага драйву й рытм-сэкцыі.
Каб вы толькі ведалі, як мяне ўжо дасталі ўсе гэтыя наркаманскія песенькі пра кропельку опіюму ды LSD! Я даўно ўжо вывучыў увесь ейны рэпэртуар, бо Стасіна фано стаіць акурат над нашым ложкам, <...>! І калі яна вяртаецца дадому а другой гадзіне ночы, дык звычайна пачынае найграваць на ім тэму свайго найвялікшага хіта пра марыхуану. Гэта яшчэ нармалёва, калі яна гэтае сваё ПО ГЛАЗАМ вые, бо да яго мы ўжо прызвычаіліся. А вось калі ў Стасі здараюцца настальгічныя прыпадкі, яна на ўсю моц ставіць жудасных крастэраў з HATE TO STATE, дзе некалі была на бэк-вакале. Гэта ж проста жудасьць нейкая, а ня музыка, <...>! Я чуў, што гурт ПО ГЛАЗАМ ужо падпісаў кантракт зь нейкай студыяй Real Records. Калі гэта не хлусьня, дык я мушу зьвярнуцца да іхнага прад'юсара: «Калі ласка, як мага хучэй, зьвязіце вы іх у тую Маскву, ці вам гэта так цяжка? І ім будзе добра, і нам з жонкаю ціха!» Колькі яшчэ часу гэта будзе працягвацца, <...>! Бацькі за ёю не глядзяць, школа таксама, участковы нічога ня хоча рабіць. Жонка мяне ўвесь час папракае тым, што я ніяк не магу сьцішыць гэтае звар'яцелае дзіця. Але ж я вас усіх папярэджваю: калі ўсё гэта будзе працягвацца й надалей, дык я ня вытрываю, бо ёсьць жа мяжа чалавечае цярплівасьці. Яшчэ тыдзень такіх музычных экзэкуцыяў, і я буду біць ПО ГЛАЗАМ па мордзе!

**Аляксандар Кружачка**

**АД РЭДАКЦЫІ:**
І гэта не адзіны ліст з Прытыцкага-38. Спазяемся, што адміністрацыя Савецкага раёну г.Менску разьбярэцца ў гэтым пытаньні.

# Джэнтэльмэны таксама плачуць

